РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду»

Выпуск №3 сакавік 2016 году

План “100” – стар.2

Шмат стомы, мала веры – стар.6-7

Беларуская “дзірка” – стар.8

# Урокі Плошчы-2006

**Рух «За Свабоду» арганізаваў «круглы стол», прысвечаны 10-й гадавіне акцый пратэсту супраць фальшавання ўладамі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 19 сакавіка 2006 году.**

«Гэта быў бадай самая буйная акцыя пратэсту ў гісторыі Беларусі і самая доўгая. Яна доўжылася фактычна сем дзён з перапынкамі на арышты і затрыманні», — сказаў, адкрываючы мерапрыемства, адзін з мадэратараў «круглага стала», журналіст Валер Каліноўскі.




«У кожнага была свая Плошча. Але думаю, усе аб’яднаюцца ў думцы, што гэта была надзвычай энергетычная падзея, надзвычай цёплая. Не было надлому. Была вера, што мы ўсё ж такі можам», — адзначыў адзіны дэмакратычны кандыдат на выбарах-2006, а цяпер лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

«Калі рэжым такі жорсткі, калі пануе такі татальны страх, калі ўсё ў іх у руках, можа здавацца, што і не варта хадзіць падстаўляць людзей. Лічу абсалютна не. Без вулічных акцый не змяняюцца рэжымы. Лічу, што гэта інструмент — вельмі важны», — падкрэсліў Мілінкевіч.



Плошчу ўдалося зрабіць мірнай, дадаў палітык. «Гэта было вельмі важна, бо мы паказалі грамадству, што мы ідзём не руйнаваць, ідзём не дэструктыўнай справай займацца, а будаваць іншае, не такое, якое зараз у Беларусі», — адзначыў старшыня Руху «За Свабоду».

«Мы самі былі на Плошчы шмат. Першую ноч 20-га мы стаялі. Дух трымаў, думалася, што варта і трэба выстаяць да канца, да перамогі», — узгадала сябра Рады Руху «За Свабоду», жонка Аляксандра Мілінкевіча Іна Кулей.

Яна прыгадала, як яны пайшлі па палатках, каб даведацца, ці захоўваць намётавае мястэчка. «Мы запытваліся ў кожнага — у дзяўчатак, у хлопцаў, у больш сталых людзей. Запытваліся: а што вы тут, а навошта вы тут? І гэтыя перамовы надалі столькі духу

**працяг на стар. 4-5**

# План «110»




**Правацэнтрысцкая кааліцыя, у якую ўваходзяць АГП, незарэгістраваная БХД і Рух «За Свабоду», заявіла пра намер вылучыць сваіх кандыдатаў па ўсіх 110 акругах пад час парлямэнцкай выбарчай кампаніі.**

«Мы ўжо перадалі сваім партнэрам для кансультацыяў сьпіс з 56 прозьвішчаў патэнцыйных кандыдатаў. БХД і Рух „За свабоду“, наколькі я ведаю, таксама маюць прыкладна па паўсотні верагодных удзельнікаў выбарчай кампаніі», — паведаміў лідэр АГП Анатоль Лябедзька.

Па ягоных словах, «мы свой выбар ужо зрабілі — пойдзем да людзей».

Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Віталь Рымашэўскі кажа, што БХД будзе моцна працаваць у рэгіёнах:

«Цягам апошніх трох год наша стратэгія была і ёсьць у тым, каб рыхтаваць рэгіянальных лідэраў. Мы праводзім шмат менавіта рэгіянальных акцыяў, скіраваных на абарону палітычных і сацыяльных правоў мясцовага насельніцтва. Вядома, мы будзем змагацца», - адзначыў адзін з сустаршыняў БХД Віталь Рымашэўскі.

Па ягоным меркаваньні, «казаць выбарцам, што зараз, калі Лукашэнку падтрымлівае нават Эўропа, мы даможамся свабодных і справядлівых выбараў, значыць падманваць іх».

«Таму стратэгія нашай партыі на гэтую выбарчую кампанію (а я спадзяюся, што яна стане стратэгіяй і усёй правацэнтрысцкай кааліцыі) будзе ў аб’яднаньні высілкаў лідэраў грамадзкай думкі ў рэгіёнах на стварэньні „народнага парлямэнту“ альбо „грамадзкага форуму“. Называць яго можна як заўгодна. А сутнасьць у тым, каб пасьля выбарчай кампаніі праводзіць нацыянальныя мерапрыемствы на новым узроўні», - патлумачыў ён.

«Для Руху „За Свабоду“ парлямэнцкія выбары 2016 году ўяўляюць пэўную цікавасьць», — кажа першы намесьнік старшыні руху Юрась Губарэвіч:

«Адбываюцца вялікія зрухі ўнутры краіны. Дый геапалітычная сытуацыя вакол Беларусі таксама моцна зьмяняецца. Таму, натуральна, мы павінны быць больш актыўнымі. І нягледзячы на тое, што выбары прадказальна могуць прайсьці па такім жа сцэнары, як і ўсе выбары за апошнія 20 год, іх трэба выкарыстоўваць. Мы зьвярнуліся да нашых актывістаў і людзей, якія прыхільна ставяцца да руху «За свабоду» з заклікам вылучаць патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты. Мы будзем дзейнічаць у рамках адзінага сьпісу правацэнтрысцкай кааліцыі», - адзначыў ён.

Па ягоных словах, Руху «не хацелася падтрымліваць, а тым болей вылучаць кандыдатаў, якія правядуць выбарчую кампанію толькі дзеля птушачкі». «Тыя людзі, якіх мы падтрымаем, пройдуць праз усе этапы выбарчай кампаніі.

Перадусім яны будуць зьбіраць подпісы выбарцаў, бо рух «За свабоду» — не палітычная партыя і ня можа вылучаць кандыдатаў рашэньнем свайго кіраўнічага органа, - нагадаў Губарэвіч.

Пра канчатковую лічбу патэнцыйных кандыдатаў казаць яшчэ ранавата, дадаў ён. «Аднак сёньня можна сьмела казаць: рух будзе прадстаўлены ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Асабліва моцная каманда зьбіраецца ў Менску», - кажа ён.

Чарговыя выбары ў Палату прадстаўнікоў пройдуць у селетнім верасьні.

# У Дзень Волі разам!

**Сябры Руху “За Свабоду” узялі ўдзел у святкаванні і віншаванні суайчыннікаў з Днём Волі, які адзначаецца ва ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка.**

Напрыклад, горацкія грамадскія актывісты ў гэты дзень, у тым ліку сябра Рады Руху «За Свабоду» Андрэй Юркоў, раздалі мінакам віншавальныя паштоўкі з нагоды Дня Волі.

У Горках склалася свая традыцыя святкавання гэтай важнай гістарычнай даты. Спачатку актывісты раздаюць віншавальныя паштоўкі, а потым ускладаюць кветкі на магілу Войцеха Дамарацкага, студэнта горацкай ВНУ, які загінуў падчас паўстання Кастуся Каліноўскага. Магіла героя захавалася да нашага часу ў дэндрапарку Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.

У Баранавічах рухаўцы выйшлі 25 сакавіка на галоўную плошчу горада з банерамі «З Днём Волі» і «Разам назаўжды», нагадалі мінакам гістарычны сэнс утварэньня БНР, павіншавалі дзяўчат чырвонымі і белымі кветкамі. Міліцыя праведзенню акцыі не замінала.

У Мінску актывісты Руху «За Свабоду» ад офісу арганізацыі з бел-чырвона-белымі сцягамі прайшлі па праспекце Незалежнасці да месца збору ўдзельнікаў святкавання Дня Волі, дзе далучыліся да асноўнай калоны.



Ля офісу Руху «За Свабоду»






У Горках і ў Баранавічах (зверху). Дэманстрацыя ў Мінску (знізу)



# Урокі Плошчы-2006 (працяг ад стар. 1)

і нам самім, што не тое, што не захацелася заклікаць сысці з плошчы, а захацелася заклікаць: “А давайце ніколі не сыдзем з плошчы!”. У іх была такая ўнутраная сіла, у гэтай моладзі, такое ўнутранае пачуццё годнасці, што яно падпітвала і разважлівых палітыкаў. Таму я і сказала на гэтай плошчы, што мы застаёмся разам з вамі», — патлумачыла Кулей.




«Плошча наклалася на агульную атмасферу, якая на той момант стварылася ў грамадстве, якая была выкліканая палітычнай кампаніяй і чаканнем людзей, што былі натхнёныя падзеямі ва Украіне. Тым, што пратэст можа мець свае вынікі», — патлумачыў камендант намётавага мястэчка Алесь Мазур.

«Сапраўды быў пэўны ўплыў Украіны, але ён быў парадаксальным. Праз намётавае мястэчка на Хрышчаціку прайшло ля 200 беларусаў, а пад час намётавага мястэчку ў Мінску братні нам украінскі народ, які, падаецца, жыве значна вальней, здолен быў прыцягнуць дзясятак чалавек», — прыгадаў адзін з арганізатараў мястэчка, адзін з лідараў Руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык.

«Ужо 21 сакавіка ў Мінску абсалютна нечакана для ўсіх ўзнікла перадрэвалюцыйная сітуацыя. Гэта было рэальна. Таму што, колькі нам ні казалі, што нас будзе менш, нас станавілася ўсё болей і болей. Гэта нягледзячы на арышты, нягледзячы на рэпрэсіі», — адзначыў ён.

Па падліках Сіўчыка, пад час пратэстаў «арыштаваных былі 1200 чалавек, можа, нават болей». «Людзей арыштоўвалі па-розных кірунках. Былі паралізаваныя ўсе штабы — і Аляксандра Мілінкевіча, і Аляксандра Казуліна, і да Плошчы былі яшчэ арыштаваныя», — сказаў палітык.

«Я ўдзячны кожнаму чалавеку, які быў на Плошчы. Сапраўды гэта быў асабісты подзвіг. І вельмі хацелася б, каб мы ўсе разам вярнуліся хаця б да духу Плошчы Каліноўскага. Бо мы мусім быць разам», — заключыў Вячаслаў Сіўчык.

## Плошчы як заканамернасць

У 2006 годзе здарыўся не адзінкавы факт Плошчы, адзначыў шэф-рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько. «Былі 1996, 1999, 2006, 2010, 2011 гады. Кожны раз на плошчы Мінска выходзілі дзясяткі тысяч людзей. І тое, што такіх падзей было 5-6, цэлыя хвалі і яны паўтараліся, сведчыць, што гэта была не выпадковасць, а заканамернасць», — адзначыў ён.

Журналіст прапанаваў параўнаць гэтыя пратэсты з паўстаннямі ў 19 стагоддзі. «Тады паўстанні таксама не прыводзілі да пераменаў і скончаліся паразай, але паўтараліся раз за разам», — сказаў Дынько.

Ён пабачыў у іх і важнае адрозненне, якое тлумачыцца і зменай гістарычнага перыяду, і адказнасцю палітычных лідараў: «Тыя паўстанні былі ўзброеныя, а гэтыя мірнымі». «І ў народ не стралялі, што надае мне пэўны гістарычны аптымізм», — заключыў шэф-рэдактар «Нашай нівы».

«Я павінны зруйнаваць два міфы: пра тое, што ні да чаго не рыхтаваліся і ўпусцілі пера-





могу. Тое, што вуліца павінна быць, тады не было ні ў каго сумневу. І каб гэта атрымалася, мы вырашылі салідарызавацца з Казуліным», — прыгадаў сябра штабу Аляксандра Мілінкевіча Віктар Карняенка.

«Галоўная выснова — не было б ніякай Плошчы, калі б не было папярэдняй актывізацыі актыву, каб яны ўсе не паўдзельнічалі ў кампаніі адзінага кандыдата, не было гэтых працэдур, якія скончыліся вылучэннем Мілінкевіча», — лічыць ён.

Па ягоных словах, «сёння не тое, каб няма патэнцыялу, але проста для вялікай колькасці людзей адзінства дэмакратычных сілаў ёсць самакаштоўнасць».

«2006 год быў жорсткай паразай апазіцыі нават у параўнанні з 2010 годам. Усё ж такі было беспрэцэдэнтнае адзінства, міжнародная падтрымка, палітызацыя і падтрымка грамадства», — адзначыў журналіст «Белсату», прэс-сакратар кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча ў 2006 годзе Павел Мажэйка.

На ягонае меркаванне, «гэта ўсё давала падставы, што апазіцыя выйдзе адтуль з нейкім падмуркам, які дазволіць дзейнічаць і больш стабільна, і больш стратэгічна».

«Але з гэтай кампаніі выйшлі з нулём, — падкрэсліў Мажэйка. — А тое, што было на Плошчы — гэта праява духу неабыякавага грамадства».

## 13 урокаў Плошчы

13 урокаў, якія трэба дэмакратычнай супольнасці вывесці з Плошчы-2006, прапанаваў палітолаг Валер Карбалевіч:

1. Найбольш спрыяльны час для перамогі — прэзідэнцкія выбары.

2. Электаральная перамога апазіцыйных сілаў. Заваёва большасці насельніцтва. І Плошча — фінальны акорд перамогі на выбарах. І народ выходзіць на вуліцу, калі адчувае, што ёсць для гэтага сэнс.

3. Апазіцыя мае шанец на перамогу толькі ва ўмовах крызісу. Сёння беларускае грамадства набліжаецца да такога этапу. У 2006 годзе гэтага не было. Наадварот гэта быў пік эканамічнай магутнасці, калі шальныя нафтадаляры ішлі на падтрымку рэжыму, пік электаральнай падтрымкі Лукашэнкі.

4. Неабходнасць кансалідацыі апазіцыі, існаванне адзінага цэнтра і адзінага кандыдата. Тое, што ў 2006 годзе атрымалася, вялікі паказальны ўрок.

5. Неабходная шырокая кааліцыя грамадскіх сілаў, якая выходзіць за традыцыйны апазіцыйны электарат. У 2006 годзе гэтага дасягнуць не атрымалася.

6. Адзінаму кандыдату ад апазіцыі не абавязкова мець вялікую харызму. Галоўнае, каб ён выконваў ролю сімвалаў пераменаў, меў біяграфію, досвед кіроўнай працы.

7. Неабходны прарыў інфармацыйнай блакады. Гэта не ўдалося ў 2006 годзе, інтэрнэт быў не такі распаўсюджаны.

8. Патрэбнае масавае і эфектыўнае выкарыстанне сімволікі, рытуалаў і сродкаў палітычнай камунікацыі. Гэта ставарае ўражанне: «нашых шмат», пэўную моду. У 2006 годзе сярод моладзі была мода насіць значкі з нацыянальнай сімволікай.

9. Фальсіфікацыя на выбарах выклікае абурэнне, калі большасць людзей адчувае сябе падманутай. Для гэтага трэба моцны лідар, эфектыўныя метады кантролю, стварэнне базы фальсіфікацыяў і інш.

10. Ніколі так арганізавана не дзейнічалі апазіцыйныя сілы, як пад час намётавага гарадка.

11. Плошча была негвалтоўнай. Да 25 сакавіка, калі Казулін не павёў на Акрэсціна, масавага збіцця не было. Падзеі 2010 году апраўдалі дзеянні Мілінкевіча ў 2006 годзе. Гвалтоўныя дзеянні пужаюць людзей.

12. Поспех апазіцыі — немагчымы без спрыяльнага міжнароднага фону і міжнароднай падтрымкі. Плошча-2006 адбылася пасля спрыяльнай «памаранчвай рэвалюцыі», трагічныя падзеі ў 2014 году стварылі адваротны прыклад.

Ніколі раней прадстаўніка беларускай дэмакратыі Аляксандра Мілінкевіча не прымалі на такім высокім узроўні ў еўрапейскіх сталіцах. Сёння такія вынікі — недасягальная мара.

13. Сёння ў апазіцыі дамінуе ідэя мірных пераменаў. Дэлемы — рэвалюцыя ці эвалюцыя — не існуе. Сёння існуе дэлема — рэвалюцыя ці дэградацыя. І беларускае грамадства абрала другое.

# Мілінкевіч: Шмат стомы, мала веры




**Прайшло 10 год ад прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі 2006 году, падчас якой Аляксандар Мілінкевіч, цяперашні кіраўнік Руху “За Свабоду”, быў абраны адзіны кандыдат ад апазыцыі. Тады шмат хто спадзяваўся на змену ўлады праз перамогу Плошчы. У інтэрвью радыё “Свабода” Аляксандар Мілінкевіч узгадаў падзеі 10-гадовай даўніны, у тым ліку адказаўшы на пытаньне пра тое тое, чаму Плошча не перамагла ў Мінску так, як у Бялградзе, Кіеве або Тбілісі.**

— Быў вельмі прыгожы эмацыйны пратэст актыўных, адукаваных, маладых. Але да нас не далучылася шырокае грамадзтва. Мы не маглі спрагназаваць гэтую падтрымку, але спадзяваліся, што, калі ня будзе арыштаў, зьбіцьця ў першы дзень пратэсту, то спыніцца пару заводаў і шырока выйдуць студэнты. І колькасьць пратэстоўцаў будзе расьці з кожным днём. Так, дарэчы, і было ва Ўкраіне. Але ў нас гэтага ня здарылася. У нас пайшло наадварот — пратэст спадаў. Тут нельга казаць, што гэта мы кепска спрацавалі. Проста людзі ў большасьці не былі гатовыя далучацца. Грамадзянская салідарнасьць і адказнасьць за свой лёс і лёс краіны яшчэ ня сталі нацыянальнай ідэяй.

Грамадзянская салідарнасьць і адказнасьць за свой лёс і лёс краіны яшчэ ня сталі нацыянальнай ідэяй.

Але гэта быў важны этап у разьвіцьці дэмакратычных настрояў, у станаўленьні грамадзянскай супольнасьці.

Сёньня, пасьля падзеяў ва Ўкраіне, Плошча можа стаць вельмі небясьпечнай для існаваньня краіны. Вулічныя пратэсты можа справакаваць сама ўлада сваім бязьдзеяньнем у крызіснай сытуацыі. Магчымы сацыяльны выбух ачоліць ня ўлада і, хутчэй, не апазыцыя, а чарговы папуліст, які зь вялікай доляй верагоднасьці будзе заклікаць да вяртаньня ў «сьветлае мінулае», у «рускій мир». Менавіта Масква мае найболей шанцаў скарыстацца з магчымага каляпсу нашай эканомікі. Толькі шаленец можа сёньня прапанаваць лёзунг — чым горш, тым лепш. Гэтая зьнешняя пагроза павінна стаць імпульсам да пачатку ўнутранага дыялёгу ў Беларусі: Радзіма ў небясьпецы!

**— А ці рыхтаваліся правакацыі ў 2006 годзе?**

— Так, і вядомыя канкрэтныя факты. Ноч перад выбарамі я правёў у перамовах з мэтай спыніць рэалізацыю радыкальных сцэнараў. На сустрэчах я казаў, што пратэсты на Плошчы будуць адбывацца паводле сцэнару аднаго цэнтру — нашага штабу. Не сумняваюся — гэта наша заслуга, што тады не пайшлі на штурм уладных будынкаў. Лічу, што рэжым быў гатовы да жорсткіх мераў: на даху Палаца Рэспублікі знаходзіліся снайпэры. Я і сёньня лічу — палітык, які заклікае людзей на вулічныя акцыі, нясе пэрсанальную адказнасьць за іх жыцьцё і здароўе.

**— Вам закідаюць, што было памылкай распусьціць людзей увечары 19 сакавіка і ставіць намёты толькі праз суткі — 20 сакавіка...**

— 19 сакавіка мы аказаліся тэхнічна не падрыхтаваныя да таго, каб ставіць намёты на Плошчы. Штаб меркаваў ставіць намётавае мястэчка ў парку Горкага, бо лічыў, што ўлады ня пусьцяць людзей на Кастрычніцкую плошчу. Але нас нечакана пусьцілі. А трымаць людзей стоячы цэлыя суткі да наступнага вечара мы палічылі неразумным — мала хто б вытрымаў такі марафон, і пратэст бы пайшоў на спад ужо з прычыны стомленасьці. Разьлік быў на то, што калі пратэстоўцы спакойна разыдуцца, ніхто іх не адвязе ў СІЗА, не паб’е дубін-

камі, то яны сьмялей выйдуць на працяг акцыі наступнага дня.

А моладзевыя структуры, якія ў выніку і зрабілі гэтую сымбалічную пратэстную акцыю, змаглі выставіць намётавы гарадок толькі на другі дзень.

**— Гэта было рашэньне штабу?**

— У штабу было некалькі сцэнараў. Трэба шчыра сказаць, што не было і адзінай думкі наконт намётавага мястэчка, была вялікая дыскусія. Частка лічыла, што Плошча — гэта вельмі небясьпечна для лёсу пратэстоўцаў, іншыя — што гэта выдатная падзея, якую трэба падтрымаць. Гэта натуральна, штаб быў усё ж не тэхналягічны, а вельмі разнастайны, у яго ўваходзілі лідэры розных структураў, а не паліттэхнолягі.

**— Тое, што Плошча ў выніку адбылася, — гэта было ваша рашэньне? Моладзь, якая выставіла першыя намёты, раілася з вамі?**

— Моладзь дзейнічала самастойна, але мы шчыльна супрацоўнічалі, давозілі намёты, арганізоўвалі харчаваньне, прыносілі цёплыя рэчы, нават спрабавалі ўсталяваць біятуалеты.

**— Вашымі самымі моцнымі словамі на Плошчы былі словы пра тое, што народ перамог страх. Якія дачыненьні са страхам у народу цяпер?**

— У адной са сваіх прамоваў на Плошчы я сказаў, што адбылася рэвалюцыя духу, я і сёньня так думаю.

Страх — вельмі эфэктыўная зброя ў руках улады. Лукашэнка адпрацаваў дасканала сваё ноў-хаў па стварэньні ўсёабдымнай атмасфэры страху праз просты і эфэктыўны мэханізм: ляяльны — працуеш, не ляяльны — беспрацоўны. Рэалізуецца ён праз сумна вядомую кантрактную сыстэму. Калі ты супраць беззаконьня, супраць нават маленькага начальніка — усё можаш страціць. Вось і ўся прырода страху — яна вельмі прымітыўная, але працуе бездакорна. Перад Плошчай у 2006 годзе быў яшчэ і дадатковы страх.




Генэральны пракурор, старшыня КДБ і міністар унутраных спраў краіны неаднакроць па-пярэджвалі па тэлебачаньні, што тыя, хто выйдзе на Плошчу, будуць разглядацца як тэрарысты. Гэта не была пустая пагроза, а ў нас за тэрарызм можа быць і вышэйшая мера пакараньня. І ўсё ж, калі нават паводле афіцыйных зьвестак, выйшла 34 тысячы чалавек, гэта было вельмі нечакана. Людзі сапраўды перамаглі страх. Я ведаю, што некаторыя разьвіталіся зь сем'ямі, яны ня ведалі, ці вернуцца і калі. Гэта быў пераломны момант у жыцьці тысяч людзей. Так, на Плошчы не было мільёнаў, але найчасьцей лёс краінаў вырашае ня большасьць, а меншасьць, сумленная, мужная і самаарганізаваная частка грамадзтва.

Чаго не хапае беларусам сёньня? Не хапае веры. У сябе, у іншых, у краіну. У тое, што Беларусь можа быць беларускай, эўрапейскай і свабоднай. Гэта першае. Па-другое, уплывае тое, што аўтарытарны рэжым трывае ўжо больш за 20 год. Ёсьць стомленасьць, апатыя. Па-трэцяе, ёсьць значная віна апазыцыі, якая дэманструе безадказнасьць і няўменьне аб'яднацца хаця б фармальна. Напэўна, цяпер дэпрэсіўны час. Дадаўся і фактар Украіны, таму што Эўрамайдан, які спачатку выклікаў станоўчыя эмоцыі, хутка стаў асацыявацца з крывёю і сьмерцю, а таксама зьнешняй агрэсіяй і стратай тэрыторыі. Зьявіўся страх Майдану, страх пратэсту.

**— Арганізацыя, якую вы ўзначальваеце, — Рух «За Свабоду» — таксама паўстала ў 2006 годзе. Яна стваралася як шырокі агульнанацыянальны рух, які на кантрасьце з малалікімі палітычнымі партыямі аб'яднае людзей, якія за дэмакратычныя перамены. Чаму так не атрымалася?**

— Беларусі патрэбны народны рух. Я меў надзею, што Плошча паспрыяе гэтаму. Спадзеў быў на тое, што 90% тых, хто выйшаў на Плошчу, не былі зьвязаныя з палітычнымі партыямі і недзяржаўнымі арганізацыямі. Гэта былі новыя людзі, якія, да таго ж, перамаглі страх, праявілі цьвёрдую грамадзянскую пазыцыю. Аказалася, што гэта нялёгка. Час не дасьпеў у Беларусі для шырокага грамадзкага руху. Ня я ж адзін спрабаваў яго стварыць — але пакуль нікому не ўдалося. Гэта ня робіцца паводле плянаў палітыкаў. Павінны дасьпець умовы, рух павінен быць патрэбны самім людзям. Народны. Фокусаў не бывае.

# «Стракозы» і «мурашы» еўразоны

**«Я ўжо які год чытаю лекцыю пра еўраінтэграцыю і ўжо які год жартую, што хутка яе трэба будзе пераназваць у лекцыю пра еўрапейскую дэзінтэграцыю», — такім яфнам пачаў вядомы эканаміст Сяргей Чалы ў офісе Руху «За Свабоду» сваю лекцыю пад назвай «Прычыны крызісу ў еўразоне». Зрэшты, закрануў эксперт і сённяшнюю эканамічную сітуацыю ў Беларусі.**




Па ягоным меркаванні, «крызіс еўразоны — першапачаткова класічны крызіс плацёжнага балансу, які апынуўся крызісам плацёжаздольнасці».

## Поўнач супраць поўдня

Пад час аб'яднання лічылі, дадаў ён, што «краіны, якія адстаюць, будуць расці хутчэй, але канвергенцыі не атрымалася», застаўся «моцны падзел паміж краінамі прамысловай поўначы і паўднёвага турыстычнага поўдня».

Эканаміст адзначыў, што сітуацыя з першага погляду нагадвае байку пра стракозу і мураша: працалюбныя немцы і нідэрландцы цяжка пражылі, прайшлі праз сур'ёзную перабудову, у іх уяўленні паўднёвыя краіны — лайдакі.

«Але грэкі працуюць больш гадзінаў, чым немцы, толькі прадукцыйнасць працы ў іх — розная. У Германіі прамысловасць, яны адпрацавалі 8 гадзінаў і пайшлі дадому. А ў Грэцыі сфера паслугаў — ад світання да досвітку сядзіш у сваёй кавярні», — патлумачыў Чалы.

«Нармальны рынкавы спосаб аднаўлення канкурэнтназдольнасці — гэта дэвальвацыя, які вырашае пытанні даволі хутка. Можна было бачыць гэта на прыкладзе Беларусі», — адзначыў Чалы, патлумачыўшы, што краіны ў еўрапейскія краіны пазбаўленыя гэтага механізму праз адзіную еўразону.

«Моцна забеглі наперад - і сталі закладнікамі гэтага палітычнага рашэння», — дадаў эксперт.

Эканаміст прапануе ці адмовіцца ад еўра, ці падзяліцца на дзве зоны: поўдзень і поўнач, што прывяло б да розніцы курсаў, але кожны з еўра «быў бы нашмат бліжэй да аптымальнай валютнай зоны». Пры гэтым, ён патлумачыў, што Грэцыя ўвогуле не адпавядала патрабаванням для еўразоны і не павінная была туды ўваходзіць.

## Беларуская "дзірка"

Што да Беларусі, то «за гэтыя гады мы навучыліся здабываць у Расіі нафту і прадаваць нафтапрадукты. Мы згубілі астатнія галіны: яны дэградавалі. За гэты час мы ўсё праелі, а як толькі розніца ў коштах закончылася, з'явілася дзірка ў бюджэце».

Па падліках эксперта, «дзірка» складае 14% расходаў. «Такой велічыні дзірка, якую немагчыма закрыць нічым. У тым лікам і тым крахаборствам, якім займаецца беларуская дзяржава. Мы для пачатку павінны стаць той эканомікай, якая расце без чужой дапамогі», — лічыць эканаміст.

«Не было перыяду росквіту, нічога асабліва не пабудавалі. Быў перыяд высокіх коштаў на сыравіну, які мы прымалі за вынікі сваёй працы», — сказаў Чалы, дадаўшы, што з крызісу пазыкаў можна выйсці толькі з дапамогай эканамічнай актыўнасці.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 10.04.2016 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by